# Тыднёвік Магілёўскі




№ 40 (104) 13-19 кастрычніка 2000 г. Кошт 50 руб.

# Маршавы працяг атрымаўся ўдалым





Фота Андруся Дзьвігуна

***На думку дэмакратычных сілаў краіны, працяг акцыі Байкот-2000, напярэдадні распачаты менскім Маршам Свабоды-3, атрымаўся ўдалым і сваіх мэтаў дасягнуў. У мінулую нядзелю ўпершыню за найноўшую беларускую гісторыю масавыя апазыцыйныя акцыі, што сабралі пад сваімі лёзунгамі больш за 10 000 чалавек, адначасна адбыліся ў 22 буйнейшых гарадох краіны.***

*__Магілёў.__ Ня быў выключэньнем наш абласны цэнтар. Тут на заклік дэмакратаў ці ня ўпершыню за некалькі апошніх гадоў адгукнулася блізу 2-х сотняў чалавек, якія прышлі ў цэнтар горада, а не на тэрыторыю "апазыцыйнай рэзэрвацыі" – пляцоўку каля ДК завода штучнага валакна, дзе апошнім часам дэмакраты былі вымушаныя размаўляць самі з сабой. Гэтым разам адкрыты (у пераносным і прамым сэнсах слова) перадвыбарчы сход адбыўся ў Камсамольскім сквэры, нягледзячы на адшчыльнае міліцэйскае і гэбэшнае ачапленьне. Аднак, на шчасьце, далей прымітыўнай дэманстрацыі сваёй сілы і спробаў запалохваньня людзей, сілавыя ведамствы не пайшлі. Хаця пагроза таго, што ў Магілёве справа дабром ня скончыцца, рэальна існавала да позьняга вечара. Міліцыянты і людзі ў цывільным доўгі час тоўпіліся ў двары офісаў БНФ і АГП, здымаючы на відэакамэру ўсіх, хто заходзіў альбо сыходзіў з двара, хаця такія здымкі большасьці ўдзельнікаў акцыі ўжо былі зробленыя падчас сходу ў сквэры.*

*На ім з сваімі ацэнкамі бягучай сацыяльна-палітычнай сытуацыі ў краіне выступілі менскія госьці Васіль Шлындзікаў і Людміла Карпенка, мясцовыя кіраўнікі і актывісты дэмакратычных партыяў. Усе гаварылі пра маючыя адбыцца выбары як пра палітычны фарс, які патрэбны ўладзе для легітымізацыі сваёй антыбеларускай палітыкі. Асуджэньне гэтых выбараў утрымвалася на транспарантах, якія лунalі над галовамі ўдзельнікаў сходу.*

*Нямала цікавага адбывалася вакол. Найбольш варушыліся ўсё тыя ж "людзі ў цывільным", якія лёгка расшыфроўваліся па актыўнасьці ў перамовах з кімсьці па мабільных тэлефонах, бясконцым здыманьні людзей на відэа і фота. Міліцыянты паводзілі сябе ў параўнаньні зь імі пасыўна. Агрэсіўна непрыязныя адносіны да сабраўшыхся былі выказаныя нейкай жанчынай сярэдняга веку і відавочным пэнсыянэрам, якія, крыху паслухаўшы выступоўцаў, пачалі настойліва прасіць міліцыянтаў "расстраляць усіх на месцы". На прапанову аднаго з удзельнікаў сходу да міліцыянэрскага маёра спыніць гэтыя правакацыйныя паводзіны і заклікі, недапушчальныя па закону, той усьміхнуўся і палічыў за лепшае адыйсьці падалей ад гэтых сапраўдных парушальнікаў грамадзкага парадку.*

*...Найбольш масавыя акцыі ў мінулую нядзелю адбыліся ў Горадні, Берасьці, Гомлі, Барысаве, Жодзіне. На іх пабывалі прадстаўнікі эўрапейскіх дэмакратычных структураў, замежныя назіральнікі і журналісты. Апазыцыя, праміnаючы палаткавыя выбары, намераная пасьля іх яшчэ сёлета час ад часу праводзіць сынхранізаваныя антыўладныя акцыі па краіне, маючы на ўвазе падрыхтоўку да выбараў прэзыдэнцкіх.*

**Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі**

# Ад хапуна ўратавалі госьці

*__Бабруйск.__ Апазыцыйная акцыя на плошчы Перамогі сабрала каля сотні гараджанаў. Да іх з прапановай байкатаваць палатныя выбары зьвярнуліся кіраўнікі мясцовых дэмакратычных арганізацыяў, а таксама менскія госьці – былы міністар працы А.Сасноў, сябра кіраўніцтва БНФ І.Саверчанка, прадстаўніца жаночай партыі "Надзея" Г.Басюк. Удзельнікі мітынгу паводзілі сябе актыўна, таму сход больш нагадваў жывую дыскусію, чым сплянаванае мерапрыемства. Людзі падтрымлівалі выступоўцаў і самых сябе ў той думцы, што краіне патрэбныя добрыя перамены, якіх бягучыя выбары, на жаль, не прынясуць. Дзеяньні цяперашняй улады, па абвешчаным меркаваньні плошчы, не адпавядаюць інтарэсам народа, а значыць выбары ня могуць быць справядлівымі і дэмакратычнымі.*

*За мітынгам здалёк наглядалі некаторыя кіраўнікі гарадзкой адміністрацыі. Нарэшце, прыкладна праз гадзіну ад пачатку сходу, міліцэйскі капітан праз мэгафон паведаміў натоўпу, што акцыя не санкцыяваная і можа выклікаць адміністратыўную адказнасьць. Ніхто з прысутных на гэтае папярэджаньне асаблівай увагі не зьвярнуў. Крыху пазьней людзі разышліся самі па сабе, бо сход вычарпаў парадак дня. Міліцыя і цывільныя ахоўнікі грамадзкага парадку нікога не чапалі й не імкнуліся затрымаць. На думку арганізатараў акцыі, гэта тлумачылася прысутнасьцю на ёй прадстаўніка місіі АБСЭ Тараса Пастушэнкі, якога вядучы сходу перш-наперш прадставіў гараджанам.*

**Тацяна РАГНЕДОВІЧ**

## СЛОВА ПРА ЛЯВОНАВА: ПРАЦЯГ І ПАЧАТАК

# "Без камэнтароў..."

***На мінулым тыдні па ўказу аб амністыі выйшаў з турмы пад Воршай Васіль Лявонаў, не дасядзеўшы прыкладна год з таго тэрміну, які быў вызначаны Вярхоўным судом.***



Колішні партыйна-савецкі кіраўнік нашай вобласьці, а пазьней міністар сельскай гаспадаркі чыгіроўскага ўраду, мог бы, згодна таму ж указу, быць выслабаджаны на некалькі дзён раней. Тады ён пасьпеў бы разьвітацца зь цяжка хворым братам. Аднак яго адпусьцілі тады, калі ён змог наведаць толькі братаву магілу...

Васіль Лявонаў стаўся першай высокапастаўленай ахвярай у ажыцьцёўленай уладай акцыі па адначасоваму запалохваньню як атачэньня Лукашэнкі, так і грамадзтва. На жаль, гэта спраўдзілася (асабліва ў першай частцы). Менавіта таму "справа Лявонава", якая, пры ўсім стараньні пракуратуры, цягнула самае большае на "выговор з занесением...", абярнулася працяглым утрыманьнем пад сьледзтвам, 4-ма гадамі турмы, канфіскацыяй маёмасьці. Адсутнасьць крымінальнай вінаватасьці міністра ў тым, што ён па-іншаму, чым Лукашэнка, бачыў выйсьце зь сельскагаспадарчага тупіку, залічыла яго ў вачах беларускіх і эўрапейскіх праваабарончых структураў у шэраг "палітычных падсудных" рэжыму. Гэта проста пацьвердзіў сам В.Лявонаў у Адкрытым лісьце да грамадзтва, якое летась было распаўсюджанае праз недзяржаўныя СМІ. У ім былы міністар прызнаў сваю віну толькі ў тым, што ў свой час наіўна паверыў у лукашэнкаўскую шчырасьць і жаданьне ашчасьлівіць народ.

Цяпер такіх ілюзіяў у В.Лявонава няма. На жаль, іх яшчэ захоўваюць альбо імітуюць (гэта й ёсьць вынікам запалохваньня) многія высокія службоўцы. Відаць, таму спроба газэты атрымаць з вуснаў нядаўніх паплечнікаў былога абласнога кіраўніка камэнтар да ягонага вызваленьня (як раней – да арышту) скончылася нічым.

"Без комментариев!.." – вось іхны службовы камэнтар. Аднак менавіта гэта можна і трэба лічыць дакладнай і глыбокай самаацэнкай сёньняшняга стану рэжыму і службовага пачуваньня ў ім. Трывожнага стану й трывожнага пачуваньня...

**Генадзь СУДНІК**

У гэтым нумары газэты чытач ня знойдзе тэлевізійнае праграмы. Такое рашэньне рэдакцыя вымушаная прыняць па прычынах манаполіі БТ на тэлерасклад, што абарочваецца для яго вялікім заробкам (на пустым месцы), а для нас – такімі ж стратамі ды яшчэ, як гаворыцца, за свой кошт. Спадзяемся, што нашыя сталыя чытачы гэта разумеюць і ня будуць крыўдаваць. Да таго ж – колькі не выбачайся перад вамі за расейскую мову праграмы, яна застаецца такой, а гэта пярэчыць канцэпцыі нашага нацыянальнага выданьня. Нарэшце, заўзятыя прыхільнікі TV і бяз нас ведаюць на памяць расклад усіх інфармацыйных блёкаў, сэрыялаў, трансьляцыяў мастацкіх стужак, бо час у такіх пастаянных перадачаў, як правіла, традыцыйна пастаянны.

...Між іншым, калі гаварыць шчыра, гэта небясьпечны занятак – глядзеньне тэлевізіі. Пра шкоду паленьня хоць папярэджваюць.

## ПА ХВАЛЯХ РАДЫЁ "СВАБОДА": ЛІСТЫ З КАЛІФОРНІІ

# Беларусь у Амэрыцы

*(Працяг. Пачатак у №№38,39)*

***Самы важны, самы істотны, самы амэрыканскі напой – гэта ня пэпсі і ня кока-кола, ня піва і ня віскі, не гарбата і ня кава, і нават у Каліфорніі – гэта не каліфарнійскае віно. Такое, прынамсі, маё асабістае ненавуковае назіраньне. У першы ж дзень на выязьдзе з аэрапорту Сан-Францыска я пабачыў рэклямны шчыт, які паведамляў, што гэты напой можна набыць на наступных адным мільёне 650 тысячах прыпынкаў па ўсёй Амэрыцы. Потым з тэлеэкрану мяне пачалі штодня пытаць, ці я ўжо выпіў сваю шклянку.***

Прызнаюся, я даўно ўжо не аматар гэтага напою, але вырашыў купіць і пакаштаваць. У малочным аддзеле крамы – а гаворка менавіта пра малако – стаяць дзясяткі розных гатункаў у розных упакоўках розных памераў. На выбар тлустасьць – 1%, 2%, 2,5% і гэтак далей; зь вітамінамі А, В, С, Д і мінэраламі ў розных камбінацыях; побач немалочнае малако – соевае, рысавае.

"Малако – найлепшая крыніца кальцыю, самы надзейны сродак супраць астэапарозу (слабых костак), ад якога пакутуюць мільёны амэрыканак"; "Штодня пі тры шклянкі!" – усё гэта сталыя заклікі малочнай індустрыі, якая і праводзіць кампанію "малако на вусах", калі знакамітасьці фатаграфуюцца зь белай палоскай пад носам.

Кожнае дзеяньне, вучыць фізыка, выклікае супрацьдзеяньне. Так сёлета здарылася з папулярным рэклямным лёзунгам "Got Milk?" – "Ты выпіў малако?" У Стэнфардзкім унівэрсытэцкім гарадку стаяць круглыя тумбы, куды вешаюцца розныя абвесткі, рэкляма – сёлета на іх зьявіліся ўлёткі з надпісам "Got Beer?" – "Ты выпіў піва?"

Кампанію праводзіла арганізацыя "Людзі за этычнае абыходжаньне з жывёламі". ЛЭАЖ абвінавачвае малочную індустрыю ў негуманных адносінах да кароваў. Маўляў, каровы даюць малако дзеля тых самых мэтаў, што і людзі – каб карміць сваіх немаўлятаў... "Піце не малако, а піва!" – аоганізатары акцыі прыводзяць цэлы стос аргумэнтаў, чаму піва лепшае за малако.

Кажуць, піўная кампанія мела шалёны посьпех ва ўнівэрсытэтах – але вельмі хутка "Людзі за этычнае абыходжаньне з жывёламі" мусілі зрываць сваю агітацыю. У справу ўмяшалася трэцяя сіла, арганізацыя, якая называецца "Маці супраць п'янай язды". "Маці" запатрабавалі неадкладна спыніць піўную прапаганду, як шкодную і нелегальную – у Амэрыцы алькаголь, у тым ліку піва, дазволена піць толькі пасьля дасягненьня 21-гадовага ўзросту.

Паводле статыстыкі, малако утрымлівае сваю пазыцыю № 2 сярод амэрыканскіх напояў, саступаючы ў папулярнасьці шыпучым ліманадам, але апярэджваючы піва і каву. На пакеце амэрыканскага малака на маім стале намаляваная карова, якая ўсьміхаецца – і далібог, ёй ёсьць ад чаго радавацца. Яны пасьвяцца на палетках, дзе не ўжываюцца пестыцыды і хімікаліі, маюць прасторныя і цёплыя хлявы, у іх рацыёне толькі арганічна вырашчаны корм. Фэрмэры практыкуюць водара- і музыкатэрапію. Адным словам, зусім так, як на Беларусі утрымліваюць свойскую жывёлу. Традыцыйная дудка ў пастушка – тая ж музыкатэрапія... Праўда, арганічных фэрмаў у Амэрыцы пакуль менш за 1% – але іх колькасьць імкліва расьце разам з попытам на менавіта такі сэртыфікаваны прадукт.

Першы кардонны пакет для малака з плястыкавым пакрыцьцём зьявіўся ў 1932 годзе, плястыкавая бутэлька – у 1964-м. Да таго малако кансэрвавалі ў бляшанках – іх, дарэчы, выдатна ведалі ў Беларусі ў 20-я гады. Ня выключана, што некаторых нашых гараджанаў проста не было б на сьвеце, калі б не амэрыканскае малако, якое яны ці іхныя бацькі, дзядулі ці бабулі атрымлівалі ў галодныя пасьлярэвалюцыйныя гады. Тады ў Беларусі дзейнічала АРА – Амэрыканская арганізацыя дапамогі дзецям. Беларускія дзеці амэрыканскае малако выпівалі, а бляшанкі не выкідалі – гэта быў каштоўны інвэнтар у гаспадарцы.

Асобныя несьвядомыя элемэнты амэрыканскае малако кралі і прадавалі на сталічных рынках. У архіве Гувэраўскага інстытута я знайшоў справаздачы пра малочную аблаву на менскіх рынках, якую ўвесну 1922 году праводзіла ЧК-ГПУ: чырванаармейцы ачаплялі тэрыторыю, і чэкісты правяралі ня толькі ўсе прылаўкі і паліцы на прадмет гандлю гуманітарнай дапамогай, але і абшуквалі пакупнікоў. Канфіскат вярталі на склады, прадаўцоў забіралі з сабою – тады, праўда, не расстрэльвалі – НЭП. Рынак адрэагаваў на новую кан'юнктуру імгненна – назаўтра на прылаўках стаялі тыя ж бляшанкі, але без этыкетак – паспрабуй дакажы, што гэта амэрыканскае малако. Дзепавітыя янкі нанесьлі ўдар у адказ – пачалі ставіць гумовыя пячаткі на накрыўках. Прадпрымальныя гандляры сталі змываць штампы газай – але гуманітарны бізнэс хутка выдыхся: без арыгінальнай этыкеткі прадаць тавар аказалася значна цяжэй.

Увогуле, этыкетка – суворая рэч. Я нядаўна купляў красоўкі, і калі прымяраў пару адной папулярнай фірмы, мой новы знаёмы цалкам сур'ёзна спытаўся, чаму я хачу павялічыць дзіцячую сьмяротнасьць у Тайляндзе...

***Аляксандар ЛУКАШУК***

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Асіповічаў

***Увесь калектыў ДК чыгуначнікаў атрымаў прэмію за добрае праведзеньне сьвяткаваньня прафэсійнага сьвята.***

Прэмія не была налічаная толькі вядучаму сьвяточнага канцэрту Ігару Сімбіраву. Начальства мясцовага чыгуначнага аддзяленьня ня толькі моршчылася ўвесь вечар, але й зрабіла непасрэдную заўвагу пасьля канцэрту як самому Ігару, так і дырэктарату ДК – за беларускую мову, на якой размаўляў з заляй вядучы. Калі справа дайшла да прэміі, гэта Ігару Сімбірову ўспомнілі.

***Год таму з пасады дырэктара Радуціцкай базавай школы на падставе яе рэарганізацыі ў пачатковую і дзіцячы садок быў звольнены дырэктар Сямён Барodзіч.***

Асьветніцкае начальства раёна, незадаволенае актыўнай грамадзкай дзейнасьцю гэтага чалавека ў ТБМ, спадзявалася, што "ліквідацыя" установы пазбаўляе ад захаваньня законнасьці. Аднак днямі суд урэшце вынес рашэньне, паводле якога дырэктара трэба аднавіць на працы й выплаціць яму грошы за вымушанае гуляньне. Узнаўляцца справядлівасьць будзе, на жаль, не за кошт чыноўнікаў, якія зрабілі шкоду чалавеку, а зь бюджэту раёна.

### ...з Шклову

***Днямі, якраз напярэдадні выбараў, нечаканы й прыемны сюрпрыз напаткаў працаўнікоў ільнозавода.***

Прадпрыемства з-за адсутнасьці сыравіны не працуе паўгады. Як дагэтуль без заробкаў трымаліся людзі – невядома. Але вось ім пашчасьціла: знакаміты кандыдат ад раёна ў палату У.Канаплёў раздабыў недзе ладную гуманітарную дапамогу ў выглядзе як адзеньня-абутку, так і прадуктаў харчаваньня. Яе й раздавалі задаволеным людзям, якія на ўсё жыцьцё запомняць прозьвішча чалавека, што праявіў пра іх клопат у цяжкі час. Супадзеньне акцыі з выбарчым календаром – чыстая выпадковасьць.

***Год таму ня толькі гуркі, але і шклоўскае сала ахвотна прадавалася на Смаленшчыне.***

Сёлета сытуацыя адваротная: цяпер на шклоўскім базары гандлююць смаленскім салам. Не сьпяшайцеся, аднак, радавацца нармальным праявам рынкавых адносінаў. Тут іншае: сала ў нашых вёсках паменшыла, вось яно й сталася даражэйшым, нават за прывазное здалёк.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

### ...з Крычава

***Практычна прымусовы збор "ахвяраваньняў" у фонд падтрымкі расейскага марскога флоту вядзецца сярод вучняў СШ №5.***

Гэта робіць непасрэдна дырэктар навучальнай установы, які пры гэтым націскае на трагедыю ў Баранцавым моры з субмарынай "Курск". Зразумела, што школьнікі пад такім маральным ціскам вымушаныя спаганяць з бацькоў патрэбныя грошы, каб не застацца па-за высакароднай акцыяй.

***Адносна нядаўна прызначаны на пасаду старшыні райвыканкаму сп.Пракопаў дагэтуль жыве ў гатэлі-Інтэрнаце цэмэнтна-шыфэрнага камбіната.***

Аднак пагалоска пра нечуваную раней сьціпласьць кіраўніка троху суцішылася пасьля таго, як пайшла па раёну новая: выканкам нібыта шукае сродкі на 3-х пакаёўку для начальніка, паколькі ў 2-х пакаёвую кватэру ў новым доме, што быў нядаўна здадзены ў горадзе, сп.Пракопаў не пайшоў.

***Андрэй КУЗЬМІН***

### ...з Клімавічаў

***Трывожныя лічбы прагучалі на нядаўнім паседжаньні райвыканкаму падчас абмеркаваньні пытаньня "барацьбы з алькагалізмам".***

З пачатку года ў горадзе за расьпіцьцё спіртовых напояў на працоўным месцы было затрымана 164 чалавекі. За гэты ж час па віне мацярок-п'яніцаў памёрлі трое неўмалятаў. У раённым наркалягічным кабінэце на лячэньні больш за 500 чалавек самых розных узростаў, прафэсіяў і адукацыі.

***Сяржук АРЖАНЦАЎ***

### ...з Бабруйску

***Гарадзкі Цэнтар габрэйскай абшчыны выклікаў удзячнасьць адзінаверцаў за арганізацыю сьвяткаваньня Новага года.***

Надыход 5761-га года па габрэйскім календары быў адзначаны весела, адначасна ў некалькіх рэстаранах і кафэ, куды прыйшлі цэлымі сем'ямі і з сябрамі. Сьпявалі свае і беларускія песьні, танчылі пад сваю і расейскую музыку. Сьвята дапамагло згуртавацца і хоць на кароткі час забыцца на клопаты і трывогі, якія існуюць як на гістарычнай, так і на рэальнай радзімах.

***Пракуратура расьледуе справу, якой спачуваюць усе гараджане.***

Нядаўна ў 6-ым мікрараёне на бульвары Прыбярэзінскім выпадкова быў знойдзены пакунак, у якім знаходзілася малое дзіця. Затрыманая й жанчына, якая падазраецца ў гэтым неверагодным злачынстве. Але на ўсе пытаньні змогуць адказаць толькі сьледзтва і суд.

***Горад застаецца чырвоным, нягледзячы на адстаўку камуністычнага старшыні выканкаму.***

Усё, што можна залепленае плякатамі, што настойліва і сувора прапануюць гараджанам "выканаць свой грамадзянскі абавязак (долг)". Гаворка, зразумела, ідзе пра выбары. Як быццам і не прайшло колькі часу з камуністычна-савецкіх часоў, калі ўсё лічылася ня меней як патрыятычным абавязкам перад Айчынай. Няўцям "новай уладзе". што згодна Канстытуцыі ўдзел у выбарах ёсьць правам грамадзяніна, а ніяк не ягоным абавязкам.

***Тацяна РАГНЕДОВІЧ***

## РАСЕЯ СУПРАЦЬ ЖУРНАЛІСТА: АПОШНЯЕ СЛОВА

# Для прызнаньня сваёй віны трэба мець сумленьне

У Махачкале, па месцы затрыманьня ўлетку журналіста радыё "Свабода" Андрэя Бабіцкага з пашпартам на чужое імя, завяршылася судовае паседжаньне па гэтай крымінальнай справе. Пракурор патрабаваў і суд пагадзіўся з прысуджэньнем А.Бабіцкаму штрафу, ад якога тут жа ў залі суда вызваліў журналіста "на падставе амністыі"...

Суд завяршыўся – забудзе! Менавіта з такой мэтай дзяржава прыняла самае мяккае рашэньне па справе журналіста, да якой была прыцягнутая ўвага ці ня ўсяго сьвету. "ТМ" даволі падрабязна інфармаваў чытачоў аб падзеях вакол усёй чачэнскай спэцслужбоўскай гісторыі затрыманьня, абмену і вывазу Андрэя Бабіцкага ў Дагэстан. З-за непрафэсіяналізму (на шчасьце) ФСБэшнікаў, апэрацыя па адхіленьню непажаданага журналіста ад асьвятленьня ваенных падзеяў, праvалілася. Сумленьня прызнацца ў гэтым не хапіла, бо давялося б трымаць адкрыты адказ перад грамадзтвам, а таму была прыдуманая выратавальная правакацыя з чужым пашпартам. Махачкалінскі суд прыняў дзейсны ўдзел у завяршэньні "справы Андрэя Бабіцкага", спадзеючыся менавіта на тое, што журналіст, замотаны перасьледам, сьледзтвам і забаронай выязджаць за межы Масквы (яго не пусьцілі ў Брусэль нават за прэміяй АБСЭ і ў ЗША на кангрэсовыя слуханьні аб стане свабоды друку ў Расеі), з радасьцю адчуе лагоднае сканчэньне сваіх неапраўданых нічым прыгодаў, а тое яшчэ й будзе ўдзячны дзяржаве за гуманнасьць.

Аднак, насуперак дзяржаве, Андрэй Бабіцкі – чалавек сумленны й мужны. Пасьля сканчэньня суда "няўдзячны" журналіст абвесьціў намер абскардзіць прысуд з тым, каб новае сьледзтва і справядлівы суд знайшлі сапраўдных вінаватых у справе замаху на канстытуцыйна гарантаваную свабоду слова і прыватную свабоду грамадзяніна. Але ці ў стане "новая дэмакратычная Расея" сапраўды давесьці справу да справядлівага завяршэньня?..

***Паводле інфармацыйных агенцыяў***

## МАСТАЦКАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Промні Імкненьня

Звычайнае жыцьцё не запрашае да глыбокага і небудзённага погляду на самыя простыя і звыклыя рэчы. Увогуле, чалавеку даволі рэдка ўласьціва гэтак супыніўшыся, азірнуцца, – і адчуўшы галасы вечнага – убачыць тое вечнае побач. А яшчэ і падараваць астатнім сваё вялікае адкрыцьцё...

У выставачнай залі саюза мастакоў Беларусі сёньня зачыняецца пэрсанальная выстава незвычайнай магілёўскай мастачкі Ірыны Лемяшонак, якая прывабліва аматараў мастацтва два апошніх тыдні. Адразу хачу запярэчыць арганізатарам выставы: гэтага часу да крыўднага мала, каб далучыць магілёўцаў да прыгожага й высокага, а тым больш абудзіць у іхных сэрцах дабрачыннасьць...

Ірына, якой толькі 14 год, малюе карціны так, што побач з кожнай спыняеш позірк, заўважаеш, як мала ты ведаеш навакольны сьвет, колькі ў ім нечаканага!

Вы бачылі пах бэзу? Не адчувалі, а менавіта – бачылі?.. А вы ведаеце, як выглядае барабанны грукат? А што такое кампутарны сьвет? А вось Ірына гэта ўсё бачыць і ведае. І ўмее гэтым падзяліцца.

Яна зь дзяцінства ня ходзіць, яе падтрымліваюць спэцыяльныя прылады, бо не працуе хрыбетніца. Жахлівая хвароба сталася для Ірыны не забыцьцём, а выпрабавальным шляхам. Той шлях дзяўчына ідзе са сьветлым і поўным пачуцьцём жыцьця. Яна заўважае больш за нас, бо яе шлях даў ёй магчымасьць бачыць далей, глыбей, танчэй. Яе ўспрыняцьце сьвету абвостранае. Кожная рэч мае вагу, кожная праява жыцьця – колер і гук, кожны гук прасякнуты значэньнем і сэнсам...

Яна малюе стары горад, па якім ніколі не блукала. Хоць –не! – блукала тою хадой, якая адкрыла ёй цішыню думкі, стому часу, прамень будучага сьвітанку. Яна малюе свае думкі, і кожная думка – гэта вобраз, які ня мусіць згубіцца. Бо ён – вынік вялікай працы, вялікага каханьня.

Сваёй творчасьцю Ірына ня вучыць, не даказвае. Яна адчыняе нам дзьверы свайго сьвету. Не прамініце, зазірніце за іх прыцягальныя створкі. Выстава працуе сёньня апошні дзень.

*Сымон ГЛАЗШТЭЙН*
*Фота Д.Новікава*









## ВЫБАРЧЫЯ ЭПІЗОДЫ

# Не хачу апынуцца сярод дурняў

Адразу хачу прабачыцца перад тымі, хто ўспрыме заўвагу, вынесеную ў загаловак ліста літаральна і аднясе гэтыя словы да сябе асабіста. Гэта проста показка такая, хаця, як вядома, у кожнай показцы ёсьць доля праўды...

Але – да справы. У мінулую суботу я вырашыў прайсьціся па цэнтральнай вуліцы абласнога цэнтра. Папярэдне паглядзеў па БТ выступ сп-ні Ярмошынай, якая ўзначальвае Цэнтральную выбарчую камісію. Выбарчая начальніца абвесьціла, што заклік да байкоту выбараў упаўне дапушчальны і ня мусіць перасьледвацца. Я паверыў, нацапіў на сябе плякат "Байкот – фальшывым выбарам!" – і рушыў. Аднак маё мірнае шпацыраваньне было хутка перарванае. Не, магілёўцы ставіліся да маёй прагулкі лагодна і ад іх я не пацярпеў. Мяне спынілі міліцыянты, якіх было ажно трое, злых і ўзброеных. Пабачыўшы іх здалёк я думаў, што яны сьпяшаюцца на якую небясьпечную апэрацыю па затрыманьні збеглага рэцыдывіста. А яны, як высьветлілася, кіраваліся да мяне. Ад цэнтральнай аптэкі я быў пад ахоўвай двух сэржантаў і лейтэнанта дастаўлены ў пастарунак.

Па дарозе лейтэнант распытваў мяне, якія гэта выбары я лічу фальшывымі. Я сумленна адказаў, што бягучыя, якія ўжо, дарэчы, датэрмінова пачаліся (невядома для чаго?). Лейтэнант у дыскусыю не ўступіў, абмежаваўся тым, што плякат мой канфіскаваў, а мне загадаў "явицца" у панядзелак на паседжаньне адміністратыўнай камісіі для разьбіральніцтва. Панядзелак мінуў, але на камісіі я ня быў: афіцыйнай позвы няма, вінаватасьці за мной ніякай няма. Мне падумалася ў такім разе, што ў нашых розных камісіяў і "органаў" дастаткова людзей, сродкаў і сілаў, каб яшчэ аблегчваць ім жыцьцё.

Тым больш, што ня памятаю выпадку за апошнія 5 гадоў, каб улада выканала свае абяцаньні, датычныя мяне. А вас, шаноўныя чытачы?..

Вось таму, у прыватнасьці, а




ня толькі з-за высокай палітыкі, на бягучыя выбары не пайду і заклікаю вас зрабіць тое ж. Можа рызыкнём пачакаць сапраўдных выбараў!

У нас іх яшчэ не было. Раней усё рабілася па загаду і згодна "самай дэмакратычнай у сьвеце савецкай канстытуцыі". Выбары давалі пастаянны вынік 99,9% – і ўдзельнікаў, і тых, хто быў "за" таго адзінага кандыдата, які ўжо быў папярэдне "выбраны" у начальніцкіх і гэбіскіх кабінэтах.

Ну, а што сёньня, многа розьніцы? Кандыдатаў, праўда, стала па некалькі чалавекаў на месца. Але колькі прыстойных людзей высакародна і маральна не пайшлі ў гэтую шырмавую ўладу, бо ўтрымлівае яе, як усім ведама, АДЗІН чалавек. Астатніх, хто рызыкнуў высунуцца з больш-менш дэмакратычнымі намерамі, "камісіі" проста адсеялі на этапе праверкі рэгістрацыйных дакумэнтаў. Хто ж застаўся, ці можна іх адрозьніць адно ад адное – усе клянуцца ў вернасьці лукашэнкаўскаму курсу, пры гэтым абяцаючы неверагодных дабротаў. Як быццам і ня ведаюць, што адное супярэчыць другому.

Апантаныя лукашысты на любыя дзеяньні пойдуць, на выбары – таксама. Гаворка не пра іх. Ёсьць нямала тых, хто прагне зьменаў і лічыць, што менавіта праз выбары можна іх дасягнуць. У іншай краіне, даражэнькія, якую мы ўсе разам пакуль не стварылі. На жаль, сытуацыя ў нас простая як белы дзень: галасуй-не галасуй...

А байкот выбараў можа даць тое, што яны не адбудуцца. Вось тады й будзе вялікі шанец шмат што зьмяніць у грамадзтве. Людзей, якія адчулі подых свабоды, цягнуцца да дэмакратыі і верыць у здольнасьць беларусаў пабудаваць у сваёй краіне прыстойнае жыцьцё – шмат. Яны на гэтыя выбары ня йдуць. Яны не гуляюць з уладай у гульні з зараней пазначаным вынікам. Яны больш ня могуць і ня хочуць заставацца ў дурнях!

Не, няхай улада яшчэ троху пацешыцца. У нас яшчэ будуць (верыцца, што блізкім часам) іншыя выбары – справядлівыя, дэмакратычныя, прызнаныя сьветам.

Пачакаем. Праўда, гэта не значыць сядзець у куце склаўшы рукі. Байкот няхай і стане (для самых стрыманых і цярплівых – таксама) першым рэальным учынкам на карысьць заўтрашняй вольнай краіны і шчасьлівага жыцьця.

*Сяржук ГІРКІН*
*11. X. 2000г. Магілёў*

## ЭКАНАМІЧНЫ РОЗДУМ

# Чым зьбіраемся плаціць

Толькі за апошні месяц цэны на аўтамабільнае паліва падвышаліся ў краіне тройчы. Гэта, акрамя іншых складанасьцяў, моцна штурхае наперад інфляцыю. Яна ў сваю чаргу прывяла днямі да таго, што кошты 1 літра дызэльнага паліва і 1 кг мяса (па якім у калгасаў яго набывае дзяржава) зраўняліся. Непамерна дорага стала карыстацца ня толькі гаспадарчым транспартам, але й прыватным.

Сытуацыя крытычная. Цана расейскай нафты (а іншай у нас няма) для перапрацоўкі за апошнія 2-3 месяцы павялічылася са 110 да 160-170 даляраў за тону. Да канца года ў сувязі з гэтым на яе трэба дадаткова выдаткаваць 30 мільёнаў даляраў. Гэта ў хуткім часе ізноў адаб'ецца на падвышэньні кошту жыцьця.

Аднак урад дэманструе спакой, спадзяючыся на тое, што да канца года цэны на сыравіну ў суседняй краіне ўпадуць. На чым грунтуецца такое спадзяваньне – невядома. Тым больш, што Масква адкрыта абвінавачвае Беларусь у рээкспарце нафты, на чым суседка губляе вялікія грошы, бо прадае нам сыравіну таньней, чым іншым спажыўцам. Па ўсяму час ахвяраваньня эканомікай сканчаецца. Даволі працяглы час беларускае кіраўніцтва дэманструе неразумeньне гэтага.

Насамрэч усё яно разумее. А заплаціць за ўсё, калі прыйдзе час, відаць, гатовае тым, чым ніводзін урад і ніводзін народ не гандлююць...

*Уладзімер КУЛАЖАНКА,*
*прафэсар*

## Да ўвагі аматараў Беларускага кнігазбору

**Наступным чацьвяргом у Магілёве мае адбыцца сустрэча з пісьменьнікамі Міхасём Скоблам і Міхасём Чарняўскім. У часе яе будзе прэзэнтаваная чарговая кніга Беларускага кнігазбору – том твораў Ларысы Геніюш. Пакуль арганізатары сустрэчы ня могуць паведаміць дакладнага месца і часу імпрэзы.**

**Гэта цягам наступнага тыдня можна будзе ўдакладніць праз Алега па тэлефоне 24-03-36.**

Рэдактар Генадзь СУДНІК

ТМ Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 40. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 12.10.2000 г. а 17.05.